*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***



# НАША СЛОВА.pdf



**Першы год выдання** **№ 6 9 лютага 2022 г.**

## XXIV Алімпійскія гульні адкрыліся ў Пекіне




Цырымонія адкрыцця XXIV зімовых Алімпійскіх гульняў прайшла на кітайскім Нацыянальным стадыёне вядомым пад назвай "Птушынае гняздо". Арганізатары падрыхтавалі ўнікальнае шоў, якое аб'яднала сучасныя тэхналогіі і гістарычныя традыцыі Кітая. Лейтматывам цырымоніі адкрыцця стаў дэвіз Алімпійскіх гульняў у Пекіне "Разам дзеля агульнай будучыні".

Галоўная частка цырымоніі адкрыцця - парад атлетаў заняў больш за гадзіну. Па "птушыным гняздзе" прайшла 91 нацыянальная каманда. Беларуская каманда выйшла на стадыён пад сімвалічным нумарам - 22. Сцяг на цырымоніі адкрыцця пранеслі канькабежцы Ігнат Галавацюк і Ганна Ніфантава.



- Для нас вялікі гонар несці наш дзяржаўны сцяг на цырымоніі адкрыцця Гульняў у Пекіне, - адзначылі перад цырымоніяй Ганна і Ігнат.



Пасля параду спартсменаў арганізатары яшчэ раз нагадалі ўсім, як важна быць разам. Некалькі дзясяткаў сняжынак утварылі кольца на фоне алімпійскіх кольцаў. Затым гэтае кольца пераўтварылася ў адзіную сняжынку. Гэтая сцэна сімвалізуе індывідуальнасць кожнага спартсмена, як вядома, у свеце няма аднолькавых сняжынак. Затым гэтая сняжынка прызямлілася ў самым цэнтры стадыёна. На яе фоне віталі ўдзельнікаў Алімпіяды афіцыйныя асобы.

***Паводле "Звязды.***

## У Стоўбцах правядуць Казюкі, фэст у гонар святога Казіміра




Рыма-каталіцкая парафія святога Казіміра ў Стоўбцах правядзе 6 сакавіка 2022 года фэст "Стаўпецкія Казюкі" у гонар святога Казіміра. У Беларусі тытул святога носяць каля 15 касцёлаў, а яго абраз можна спаткаць у вельмі многіх святынях нашага краю.

У Беларусі прызнанне атрымалі Казюкі ў Гародні, дзе ў 1484 г. каралевіч скончыў свой зямны шлях. Але і Стоўбцы, дзе парафія носіць яго імя ўжо чатыры стагоддзі, таксама маюць вялікае жаданне годна ўшанаваць памяць св. Казіміра, вядомага сваёй пабожнасцю, асаблівай адданасцю Маці Божай і шматлікімі справамі дабрачыннасці. Раней свята ў парафіі абыходзілася парафіяльным адпустам, сёлета ж арганізоўваецца ў больш шырокім фармаце: з шэсцем па горадзе, урачыстай канцэртнай праграмай, выставамі і кірмашом.

***Наш кар.***

# Беларуская літаратура аб'ядноўвае і нараджае патрыятычныя пачуцці

Навукова-практычны семінар "УРАДЖЭНЦЫ РОДНАГА КРАЮ", прысвечаны пісьменнікам-маладнякоўцам, адбыўся 3 лютага ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

"Семінар з'яўляецца чарговым мерапрыемствам у рамках вялікага праекта, прысвечанага 100-годдзю літаратурнага аб'яднання "Маладняк", якое паўплывала на развіццё літаратурнага руху ў 20-30-х гадах мінулага стагоддзя", - адзначыў намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі, кандыдат культуралогіі А. А. Суша.




На мерапрыемстве абмяркоўваліся формы захавання памяці пра жыццё і творчасць сяброў літаб'яднання "Маладняк": Алеся Гурло, Яна Скрыгана, Міхася Зарэцкага, Змітрака Бядулі, Уладзіміра Дубоўкі, Кузьмы Чорнага, Пятра Глебкі, Петруся Броўкі і папулярызацыі іх творчасці сярод студэнтаў, школьнікаў і шырокай чытацкай аўдыторы.

Сустрэча літаратуразнаўцаў, прадстаўнікоў рэгіянальных бібліятэк і музеяў краіны была вельмі насычанай і эмацыйнай і засведчыла сапраўдную вялікую любоў і пашану да беларускай літаратуры і пісьменнікаў.

Гэта праяўляецца ў развіцці музейных экспазіцый, стварэнні віртуальных праектаў, правядзенні выстаў, семінараў і круглых сталоў, арганізацыі экскурсій і заняткаў для школьнікаў і студэнтаў.

Прысутныя даведаліся аб паспяховым развіцці праекта Нацыянальнай бібліятэкі "На хвалі часу, у плыні жыцця", які ажыццяўляецца на працягу чатырох гадоў сумесна з інфармацыйнымі партнёрамі.

Як развіваць літаратурнае краязнаўства, як папулярызаваць лепшыя творы беларускай літаратуры, як надаваць другое жыццё забытым імёнам - пра гэта казалі выступоўцы на навукова-практычным семінары.

У сустрэчы прыняла ўдзел дачка Яна Скрыгана Галіна Іванаўна Скрыган. На семінары выступілі вядомыя літаратуразнаўцы: Таццяна Лаўрык, Міхаіл Бараноўскі, Дзмітрый Давідоўскі, Аксана Данільчык і іншыя.

"Жыве ў сэрцах з намі
святое слова Яна Скрыгана",
-такім быў асноўны тэзіс выступлення дачкі Яна















Скрыгана, Галіны Іванаўны Скрыган. Яна вывучала архіў і дзённікі бацькі, ажыццявіла 6 выданняў, стварыла фоталетапіс хатняга архіва Я. Скрыгана.

Галіна Мікалаеўна Васілевіч, дырэктар Каменскага дзіцячага сада- сярэдняй школы з вялікай любоюпрацуе з вучнямі і перадае ім веды пра Яна Скрыгана, удзельнічае ў Капыльскіх чытаннях.

Людміла Францаўна Сямёнас з Пастаўскай дзіцячай бібліятэкі распавяла пра ўшанаванне памяці У. Дубоўкі, праз наданне яго імя бібліятэцы, усталяванне мемарыяльнай дошкі, усталяванне памятнага каменя, правядзенне велапрабега па мясцінах жыцця У. Дубоўкі. Пра цікавасць да творчасці К. Чорнага распавяла Вольга Уладзіміраўна Радкевіч, бібліятэкар Цімкавіцкай сельскай бібліятэкі.

Малады культуролаг Радзівон Колас з Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Коласа, паведаміў пра стварэнне мемарыяльнага кабінета Пятра Глебкі, захаванне жыццяпісу літаратара, распрацоўку адмысловага сайта.

Загадчык літаратурнага музея Максіма Багдановіча Міхаіл Бараноўскі засведчыў пра цікавасць Змітрака Бядулі да асобы Максіма Багдановіча.

Пра праект "Броўка - Быкаў- Барадулін" па наведанні родных месцаў беларускіх творцаў распавяла Карына Бадылевіч - навуковы супрацоўнік літаратурнага музея імя П. Броўкі.

Літаратуразнавец, паэтэса Аксана Аляксееўна Данільчык выступіла з дакладам, прысвечаным творчасці жанчын, удзельніц літаб'яднання "Маладняк" і выданню анталогіі жаночай беларускай паэзіі.

Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Беларускі дзяржаўны архіўмузей літаратуры і мастацтва, Выдавецкі дом "Звязда" (газета "Літаратура і мастацтва"), Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры.

*Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*

# Гістарычныя лекцыі знаных навукоўцаў працягваюцца

Нацыянальная бібліятэка Беларусі працягвае шэраг лекцый вядомых навукоўцаў у межах цыкла "Крыніцы гістарычнай памяці". Лекцыі адбываюцца кожны тыдзень у адкрытым для публікі фармаце і на бясплатнай аснове, а таксама суправаджаюцца жывой онлайн-трансляцыяй.

**2 лютага** ў межах цыкла лекцый "Крыніцы гістарычнай памяці" адбылося выступленне дацэнта БДПУ імя М. Танка Іны Калечыц, удзельніцы археалагічных і рэстаўрацыйных работ на старажытнай царкве Святога Спаса ў Полацку.

Іна Леанідаўна Калечыц выкладае дапаможныя гістарычныя дысцыпліны і мятодыку выкладання гісторыі ў Дзяржаўным педуніверсітэце імя Танка. З 2004 года яна ўдзельнічала ў даследаваннях археолагаў і рэстаўратараў у старажытным Полацку.

На сценах самага старажытнага храма Беларусі, Полацкай Спаса-Праабражэнскай царквы адкрылі 4000 тысячы надпісаў XII-XIX стагоддзяў. Што і для чаго пісалі продкі? На гэтыя пытанні адказала аўтар шматлікіх публікацый у друку пра царкоўныя графіці, спецыяліст па эпіграфіцы - Іна Калечыц.

"Час напісання графіці можна падзяліць на некалькі перыядаў, -патлумачыла даследчыца.- Узнікненне самых першых надпісаў звязана з пачаткам функцыянавання храма.Тут захаваліся памінальныя, бытавыя, малітоўныя, графічныя кірылічныя надпісы, якія наносіліся на алтары і на слупах храма ад пачатку існавання манастыра ў XII стагоддзі да 1579 года, часу прыхода войскаў караля польскага і вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя. Пасля 1579 пачынаецца новы перыяд, у якім пераважна праяўляюцца надпісы лацініцай. З 1584 года іх пакідалі часта вучні Полацкага езуіцкага калегіюма".

"Нашы продкі наносілі надпісы на сцянах пісаламі, іголкай. Захаваліся аўтографы майстроў, памінальныя запісы. Сярод гэтых запісаў засталіся звесткі пра ігуменняў, якія ўзначальвалі манастыр пасля Ефрасінні Полацкай - Кацярына, Ганна, Акіліна. Якія матывы былі ў тых, хто наносіў гэтыя надпісы? Пакінуць памяць пра сябе, мець спадзеў на малітву.

Сярод малюнкаў захаваліся шматлікія выявы крыжоў, бусла на гняздзе, павы, коцікаў. Шкаляры афармлялі свае надпісы ў рамках. Прадрапаныя надпісы захаваліся на старажытнарускай і старабеларускай мовах.

Самымі частымі былі звароты да Бога, напісаныя кірыліцай і лацінкай. Тыя, хто пакідаў памінальныя над-

# Гістарычныя лекцыі знаных навукоўцаў працягваюцца




пісы, мелі спадзяванне, што малітва за душы іх родных будзе доўжыцца стагоддзямі." Слухачы падзякавалі даследчыцы за цікавую лекцыю.

9 лютага 2022 г. а 15-й гадзіне - лекцыя "Беларусь на старажытных картах". Сярод пытанняў: Калі ўпершыню на картах з'яўляюцца беларускія землі? Ці ведаў Пталемей пра Беларусь? Калі з'явіліся першыя карты з тапонімам "Белая Русь"? На падставе чаго тэрыторыі дзяржаў і земляў вылучалі на даўніх картах рознымі колерамі?..

*Спасылка на трансляцыю: https://youtu.be/bHjmNiuhML8*

Эксперт - Леў Казлоў, кандыдат гістарычных навук, знакаміты даследчык старажытных беларускіх карт, гісторык, перакладчык; аўтар фундаментальных прац па гісторыі беларускай картаграфіі, складальнік гістарычных атласаў і збораў даўніх карт, аўтар рэканструкцыі шэрагу старажытных карт, атласаў і глобусаў (у Менскай ратушы, у Нясвіжскім палацы і інш.). Калегі завуць яго "беларускім Меркатарам", параўноўваючы са знакамітым фламандскім картографам і географам XVI ст.

16 лютага 2022 г. а 15-й гадзіне - лекцыя "Адлюстраванне гістарычнай памяці ў назвах вуліц Мінска". Сярод пытанняў: Пра што расказваюць назвы вуліц Менска? Якія найменні дамінуюць у беларускай сталіцы? Ці істотна змяніліся назвы вуліц Менска за апошнія 100-200 гадоў? Ці можа тапанімія спрыяць выхаванню патрыятызму? Якіх назваў вуліц не хапае беларускай сталіцы? Як прысвойваецца найменне вуліц?..

*Спасылка на трансляцыю: https://youtu.be/_CP0IlFEknY*

Эксперт - Іван Сацукевіч, член камісіі па найменаванні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў і іншых састаўных частак г. Менска пры Менгарвыканкаме, гісторык, выкладчык, экскурсавод, даследчык гісторыі Менска, аўтар шматлікіх публікацый пра беларускую сталіцу.

23 лютага а 2022 г. а 15-й гадзіне - лекцыя "Аператыўныя і выведвальныя зводкі Беларускага штаба партызанскага руху". Сярод пытанняў: Што рабілі ў беларускіх лясах дыверсанты з Іспаніі? Дзе нямецкія спецслужбы адкрывалі шпіёнскія школы і каго туды вербавалі? У чым асаблівасць і ўнікальнасць корпуса справаздачных дакументаў БШПД? Як фармавалася справаводства і дакументаабарот у фарміраваннях "лясных салдат" і кіруючым штабе? Якi інфарматыўны і навуковы патэнцыял выніковых зводак БШПД, шлях іх увядзення ў навуковы аварот?..

*Спасылка на трансляцыю: https://youtu.be/ZSUPDBj_rwg*

Эксперт - Святаслаў Кулінок, кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела публікацый Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, аўтар больш за 160 навуковых публікацый, спецыяліст па гісторыі і крыніцазнаўстве Вялікай Айчыннай вайны.

Мадэратарам і каардынатарам сустрэч выступае Алесь Суша, намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

***Эла Дзвінская,***
*фота аўтара.*






# Народны паэт будзе ўшанаваны ў нацыянальнай скарбніцы

4 лютага ў Нацыянальнай бібліятэцы прайшоў круглы стол да 140-годдзя Я. Коласа і 100-годдзя Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

На круглым стале адбылася прэзентацыя юбілейных мерапрыемстваў, былі абмеркаваны перспектывы супрацоўніцтва Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея з Нацыянальнай бібліятэкай, установамі адукацыі і турыстычнымі фірмамі.



Дырэктар літаратурна-мемарыяльнага музея Я. Коласа Ірына Мацяс і яго навуковыя супрацоўнікі Аляксандр Крыжэвіч, Вольга Наважылава і Іван Дубовік падзяліліся разнастайнай інфармацыяй, якая знаёміць з дзейнасцю музея па пашырэнні ведаў пра беларускага класіка, аўтара паэтычных шэдэўраў "Новая зямля" і "Сымон-музыка".

Дом-музей Я. Коласа з'яўляецца цэнтрам культурнага жыцця, захоўвае дух свайго часу і падтрымлівае атмасферу гасціннасці і сардэчнасці. Пра гэта распавяла яго дырэктар Ірына Уладзіміраўна Мацяс.

У 2022 годзе музей прапануе сваім наведвальнікам лекцыі пра жыццёвы і творчы шлях Я. Коласа, інтэрактыўныя праекты: квэст-гульню па экспазіцыі музея "Таямніцы дома Песняра", інтэрактыўную гульню " Жыццё па Коласу", цыкл творчых мерапрыемстваў: літаратурны чацвер, сустрэчы з творчай інтэлегенцыяй у Доме-музеі Я. Коласа, спецпраекты музея: "У дзень вяселля - у музей", "Выпускны ў Доме Коласа", літаратурна-музычныя вечары " Кватэрнік у дзядзькі Якуба"- сустрэчы з таленавітымі паэтамі, музыкантамі.

Школьнікам, студэнтам, творчай інтэлегенцыі будзе прапанавана здзейсніць экскурсіі па мясцінах, звязаных з дзейнасцю Якуба Коласа. З дапамогай турыстычных фірмаў можна будзе наведаць Акінчыцы, дзе нарадзіўся Я. Колас, а таксама - Смольню, Ласток і іншыя мясціны. Пра гэта паведаміў супрацоўнік музея Аляксандр Крыжэвіч. Філіял "Мікалаеўшчына" прапануе наведанне мемарыяльных і літаратурных экспазіцый, экскурсійны маршрут "Акінчыцы-Альбуць - Смольня", паход выхаднога дня "Свет раслін на службе сям'і", збор лекавых раслін, кансультацыі траўніка.

Нацыянальная бібліятэка і Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Я. Коласа падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве ў межах святкавання юбілею 140-годзя з дня нараджэння народнага песняра.

- Цягам года адбудуцца супольныя мерапрыемствы разам з літаратурным музеем, пройдуць канферэнцыі, круглыя сталы, лекцыі коласазнаўцаў для шырокай публікі, - паведаміў намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі спадар Алесь Суша.- Змогуць адбыцца шматлікія выставачныя мерапрыемствы з прадстаўленнем выданняў Я. Коласа, дэманстрацыяй рукапісаў народнага песняра, музычных дакументаў, нотных запісаў песнь на вершы народнага паэта. Будуць запланаваныя музейна-педагагічныя заняткі адукацыйна выхаваўчага характару.



Нацыянальная бібліятэка валодае вялікі рэсурсамі, звязанымі з творчасцю Я. Коласа. У галоўных сховішчах галоўнай скарбніцы краіны захоўваецца першая кніга Я. Коласа "Другое чытанне для дзяцей беларусаў", тут зберагаецца каля 100 выданняў Я. Коласа, 70 аўдыёвізуальных дакументаў, каля 200 нотных запісаў музычных твораў, вялікая колькасць мастацкіх твораў (вядомых мастакоў-графікаў В. Шаранговіча і Г. Паплаўскага, і іншых), 42 аўтарэфераты кандыдацкіх дысертацый айчынных навукоўцаў на тэмы творчасці Якуба Коласа.




- Асаблівая ўвага будзе нададзена педагагічнаму аспекту спадчыны Якуба Коласа, бо ён пачынаў сваю працу як педагог, потым перайшоў да літаратурнай і навуковай дзейнасці, - адначыў А.А. Суша.

10 гадоў таму да 130-годдзя Я. Купалы і Я. Коласа Нацыянальная бібліятэка рыхтавала віртуальны праект на сваім партале, прысвечаны творчасці літаратурных класікаў. Такі праект можа быць адноўлены.

***Эла Дзвінская,*** *фота аўтара.*

# Краязнаўчая біблiяпанарама "Паэзія краю роднага ў душы загучала ізноў"

У рамках раённага моладзевага праекта Лідскага БРСМ "І з "мышкай", і з кніжкай" Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы ладзіла краязнаўчую бібліяпанараму "Паэзія краю роднага ў душы загучала ізноў" для студэнтаў 2 курса гуманітарнага факультэта Лідскага педагагічнага каледжа.







Вядоўцы падзяліліся з прысутнымі гісторыяй літаратурнага жыцця Лідчыны, якое ўзыходзіць ад 16 стагоддзя і да нашых дзён. Падчас мерапрыемства аўдыторыі было прапанавана прагледзець некалькі буктрэйлераў на кнігі лідскіх пісьменнікаў і паэтаў. Прысутных пазнаёмілі з бібліятэчнай фактаграфічнай базай дадзеных "Літаратурная карта Лідчыны". Таксама на мерапрыемства былі запрошаны і паэты Лідчыны. Станіслава Іванаўна Белагаловая і Васіль Фёдаравіч Варошка з задавальненнем пазнаёмілі аўдыторыю са сваімі вершамі і расказалі крыху пра сваё жыццё.

***Наш кар.***





# Ён прайшоў ГУЛАГ

## *Да 100-годдзя Янкі Жамойціна*

28 студзеня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння празаіка, публіцыста і грамадскага дзеяча Янкі Жамойціна (1922-2003). Янка Жамойцін быў родам з Лідчыны. Вучыўся ў польскай школе ў Скрыбаве і ў Шчучыне, а потым - у польскай гімназіі ў Варшаве. Закончыў у Жэшуве прафесіянальны інстытут права і адміністрацыі. Меў дыплом магістра адміністрацыі Варшаўскага ўніверсітэта. Жыў і працаваў у Варшаве.





**Беларускія пісьменнікі Польшчы. Янка Жамойцін сядзіць на першым плане пасярэдзіне. 2002 г.**



**Беларускія пісьменнікі Польшчы. Янка Жамойцін стаіць на першым плане злева, 2002 г.**

У 1943 годзе кіраўніцтвам Беларускай незалежніцкай партыі Янка Жамойцін быў накіраваны ў Саюз беларускай моладзі (СБМ) дзеля пашырэння ідэі незалежнасці сярод моладзі. Ён з'яўляўся акруговым кіраўніком СБМ у Наваградку. У канцы Другой сусветнай вайны Янка Жамойцін апекаваўся беларускімі хлопцамі ў нямецкіх лагерах працы ў Кёльне і ў Дэсаў. А восенню 1945 года ўжо жыў у Польшчы, дзе праз чатыры гады быў арыштаваны органамі МДБ і асуджаны ў Менску на 25 гадоў зняволення, хаця пракурор патрабаваў расстрэлу. Пасля суда з Менска быў этапаваны ў канцлагер пад Акмолінскам, а потым у Караганду. У ГУЛАГУ адбыў 7 гадоў і ў 1957 годзе вярнуўся ў Варшаву. Жывучы ў Варшаве, Янка Жамойцін прымаў удзел у самых розных беларускіх арганізацыях. Актыўна друкаваўся на старонках беларускага тыднёвіка "Ніва", а таксама ў іншых беларускіх выданнях Польшчы і ЗША. У зборніку "Лёс аднаго пакалення" (Беласток, 1996) апублікаваў сваю біяграфічную аповесць "З перажытага".

Аповесць надрукавана ў Беларусі ў часопісе “Лідскі летапісец” (№№ 77- 83).

***Сяргей Чыгрын.***





## Год гістарычнай памяці

# Школа імя Янкі Купалы

У ліпені мы будзем шырока адзнаачь 140-годдзе з дня нарадэння класіка айчыннай літаратуры, народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. З 1945 года яго імя, да чаго прычынілася цётка Уладзя, носіць адзіная ў Менску сярэдняя школа № 19, якой ужо больш за сотню гадоў. У рамках падрыхтоўкі да юбілею Песняра ў незвычайнай навучальнай установе адбылася цікавая сустрэча з яе былым выпускніком, пісьменнікам, перакладчыкам і мастаком, падпалкоўнікам міліцыі ў запасе Юрыем Кур'яновічам.





ШКОЛА шырока вядомая сваім высокім узроўнем выкладання матэматыкі. Гэтая матэматычная слава замацавалася за ёй яшчэ з савецкіх часоў. Крыніцай ганаровай вядомасці з'яўляецца вядомы прадстаўнік навукі, якая вывучае колькасныя адносіны, Аляксандр Маркавіч Фельдман. Ён шчыруе тут ужо 54 (!) гады, а яго агульны настаўніцкі стаж складае больш за 60 гадоў. Непаўторны выкладчык адным з першых у краіне атрымаў кваліфікацыйную катэгорыю "настаўнік-метадыст". Чатырнаццатага лютага ветэрану споўніцца 85 гадоў, а ён працягвае плённа працаваць у родным калектыве і сустракацца са сваімі былымі вучнямі. Дарэчы, знаны майстар падпісаў некалі будучаму літаратару, які вучыўся ў ягоным спецыялізаваным класе, сваю кнігу "Матэматыкі шмат не бывае": *"Дарагі Юра! Жадаю Вам здароўя, дабрабыту, шчасця. Хай гэта кніга нагадвае пра цудоўныя гады".*

Сустрэча, у ёй разам з іншымі ўдзельнічаў і Аляксандр Маркавіч, адбылася дзякуючы намаганням настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Іны Міхайлаўны Шапковай, якая вяла мерапрыемства і прадстаўляла госця. Адначасова яна з'яўляецца кіраўніком мясцовага Народнага музея Народнай Славы - аднаго са старэйшых школьных музеяў сталіцы. Асаблівасць установы ў тым, што яна захоўвае сапраўдныя рэчы , распавядаючыя пра гісторыю школы, падзеі Вялікай Айчыннай вайны, культуру і быт беларусаў канца XIX - пачатку XX стагоддзяў. А яшчэ - пра карысныя выкапні на тэрыторыі Беларусі і былога Саюза.

МЕНАВІТА ў гэтым музеі і прайшла сяброўская вечарына, зусім не тыповая для падобных сустрэч з пісьменнікамі. Юры Уладзіміравіч падзяліўся сваімі школьнымі ўспамінамі, расказаў пра творасць Янкі Купалы, пра тое, як знайшоў яго невядомы аўтограф на лісце з рэкамендацыяй сябру, пра сваю асабістую літаратупную дзейнасць. У прыватнасці, як працаваў над кнігай "Старасвецкая Лошыца", якая была прызнана лепшым краязнаў-







чым выданнем за 2017 - 2019 гг. у намінацыі "Гарады Беларусі" Першага Рэспубліканскага краязнаўчага форуму Беларусі (12 - 13 сакавіка 2020 г.).

Пісьменнік падкрэсліў, што сёння кожны адукаваны, інтэлігентны чалавек павінен мець веды ў розных галінах навукі. Тут, зразумела, гаворка ідзе не пра нейкія фундаментальные веды, а пра разуменне асноўных постулатаў. Чалавек павінен, прынамсі, мець уяўленне пра табліцу Мендзялеева, тэорыю адноснасці Эйнштейна, тыя ж законы Ньютана... Прысутныя пачулі пра тое, што, на жаль, лірыкам бракуе ведаў у дакладных навуках, а фізікам - у гуманітарнай сферы. Каб адзначыць важнасць усіх гэтых ведаў як для адных, так і для іншых, а галоўнае абудзіць цікавасць старшакласнікаў не толькі да матэматыкі, але і да літаратуры, Кур'яновіч прывёу прыклад педагагічнай дзейнасці акадэміка Барыса Віктаравіча Раўшэнбаха (1915 - 2001) - вядомага савецкага і расійскага фізіка-механіка, спецыяліста ў сферы ракетна-касмічных сістэм, аднага з заснавальнікаў савецкай касманаўтыкі, доктара тэхнічных навук, прафесара. Ён прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы першага полёту чалавека ў космас, быў незвычайна і living рознабакова адукаваны (часам яго называюць "апошнім энцыклапедыстам XX стагоддзя"). Барыс Віктаравіч падкрэсліваў, што для добрага фізіка адной, так бы мовіць, логікі недастакова. Яму патрэбна інтуіцыя, фантазія, вобразнае мышленне, - тое што ўласціва гуманітарыям, у прыватнасці, пісьменнікам. "Энцыклапедыст" выкладаў у адной з прэстыжнейшых тэхнічных ВНУ на постсавецкай прасторы- Маскоўскім фізіка-тэхнічным інстытуце, дзе ўзначальваў кафедру механікі. Быў ці не адзіным у колішнім Саюзе выкладчыкам дакладных навык, які акрамя спецпрадмета чытаў сваім студэнтам лекцыі па мастацтве, рэлігіі і гісторыі навукі.

БЫЛЫ выпускнік адзначыў, што было б няблага, калі б мясцовым школьнікам не толькі асобна задавалі задачкі вялікага расійскага матэматыка Сканаві і давалі заданні па літаратуры, але нейкім чынам творча злучалі іх, як у вядомым фільме Ігара Дабралюбава "Расклад на паслязаўтра". Сюжэт фільма будуецца вакол шырока вядомай падчас стварэння фільма спрэчкі "фізікаў" і "лірыкаў". У фізіка-матэматычную школу імя Льва Ландау пры Інстытуце фізікі Акадэміі навук СССР са звычайнай школы пераходзіць працаваць настаўніца рускай літаратуры Антаніна Сяргееўна. Яна са здзіўленнем заўважае, наколькі паважліва тут ставяцца да вучняў - як да паўнавартасных творчых асоб. Але тыя не вельмі сур'ёзна ставяцца да літаратуры. І вось, каб зрабіць свае ўрокі нестандартнымі і цікавымі, настаўніца прапануе ім хатняе заданне: "Параўнальны аналіз "Белых начэй" Дастаеўскага з двухкампанентным няйтрына Ландау".

Юрась Кур'яновіч прапанаваў вучням зусім нечаканае - экспромтам адлюстраваць літаратуру нейкай матэматычнай, альбо фізічнай ці хімічнай формулай і патлумачыць свой адказ. Зрабіць гэта аказалася цяжка. Толькі адна дзяўчына паспрабавала пафантазіраваць і выказаць здагадку, што, мажліва, гэта можна зрабіць з дапамогай тэорыі хваль, бо літаратуры ўласціва хвалепадобнасць.











На думку пісьменніка, літаратуру ў матэматычным плане можа "прэзентаваць" і матэматычная пастаянная, адносіна даўжыні акружнасці да яе дыяметра - лік *"Пі"* - 3,14159...... Лік *"Пі"* - самая вядомая і бадай самая таямнічая канстанта ў матэматычным свеце. Гэты лік немагчыма ўявіць у выглядзе звычайнага дзесятковага дробу: дроб атрымліваецца бясконцым, і ў размеркаванні лічбаў пасля коскі няма ніякай заканамернасці. Некаторыя навукоўцы сцвярджаюць, што людзі запраграмаваны для знаходжання заканамернасцей ва ўсім, таму што толькі так мы можам надаць сэнс усяму свету і самім сабе. І менавіта таму іх так прыцягвае "незаканамерны" лік *"Пі"*. Мажліва, у гэтай незаканамернасці, бясконцасці, нарэшце, таямнічасці ліка *"Пі"* і ёсці нешта падобнае літаратурнаму працэсу. Літаратура - гэта ж бясконцае мастацкае ўвасабленне ў слове думак, спадзяванняў, радасці, мар, горычы, болю, запа-ветаў... - той шматстайнай гамы чалавечых пачуццяў, якія і робіць яго жывым чалавекам, а не проста механічным робатам. Разважанні, меркаванні і прыклады "дакладчыка" выклікалі адпаведны водгук у вучняў. Яны задалі шаноўнаму госцю шмат пытанняў і пра яго творчасць, і пра яго ўлюбёных пісьменнікаў, і пра літаратуру ўвогуле. Цікавіліся, ці дапамагае яму пісаць матэматыка.

Між іншым, у прозе Кур'яновіча можна знайсці багата філасофіі і, так бы мовіць, водгук ягонай матэматычнай адукацыі. Успамінаю апавяданне з кніжкі "Гарадская элегія" "На іспыт: "... праляцеў паскорана па крывалінейнай траекторыі і, не парушаючы законаў класічнай механікі, упаў акурат перад шклянымі дзярыма...". Альбо апавяданні "Ліст": "Час яе жыцця можна параўнаць хіба што з існаваннем на Зямлі элементарнай часціцы (накшталт пі-мезона)", "Святло - неразгаданая таямніца Сусвету. У вас Гюйгенс і Ньютан спрабавалі разгадаць яго прыроду...".

Таксама на думку Кур'яновіча, у матэматычным плане з дапамогай прастой функцыі можна адлюстроўваць паэзію, ці дакладней сказаць, рытміку верша. Ён даў хатняе заданне хлопцам і дзяўчатам, узять некалькі слупкоў "Новай зямлі" Коласа і знайсці для іх функцыю, якая б графічна адлюстроўвала рытміку паэтычных радкоў Песняра.

НАПРЫКАНЦЫ сур'ёзнай і карыснай размовы Іна Міхайлаўна заўважыла, што школа па праву ганарыцца сваім выпускнікамі. Сярод іх вядомыя вучоныя Аляксандр Іванюк, Ігар Фількевіч, Ірына Бутыліна і Павел Швайко, спартоўцы Юрый Тарасюк і Мікалай Мілігула, прадстаўнікі іншых накірункаў дзейнасці. Выкладчыкі прывіваюць дзецям з ранняга ўзросту любоў да гераічнага мінулага як сталіцы, так і Бацькаўшны ў цэлым, роднай літаратуры, якая пра яго распавядае. Надаецца належная ўвага захаванню гістарычнай памяці пра знакавыя падзеі ў жыцці краіны розных перыядаў, патрыятычнаму выхаванню вучняў на прыкладах папярэднікаў і лепшых прадстаўнікоў сённяшняга часу. Рэгулярнымі сталі, да прыкладу, музейныя заняткі, на якіх дэталёва разглядаюцца культурныя і гістарычныя падзеі, адбываюцца знаёмствы са знакамітымі асобамі мінулага і нашых дзён. Сёння ўжо зацверджаны і выконваецца план падрыхтоўкі і правядзення мерапрыемстваў, прысвечаных 140-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы.

***Уладзімір Барысенка.***
*Фота аўтара.*

Сяржук Сыс

# РОДНАЕ СЛОВА

* * *

*Галіне*

Калі можаш - даруй мой Калінавы мост
і начныя глыбокія рэкі.
Лепей так, за свабодай наўпрост,
як яшчэ не зрабіўся калекам.
Разумею, як цяжка, сяброўка, адной.
Дык трымайся і ведай: аблашчаным Богам
будзе некалі ў гэтай юдолі спакой...
Калі правільнай будзе дарога.

* * *

Пасля блуканняў зорных,
нібыта ўпершыню -
трубяць святыя горны...
А я сярод вагню.

Народжаны нанова
бягу-лячу ў траву,
чапляюся за словы
і мо таму жыву…

Каму вядома колькі -
Гадоў, сустрэч, надзей,
Калі суцiхне болька:
"Які я між людзей?"

Ці ў скрусе я, ці ў шчасці,
Ці гаспадар, ці госць…
Ці допыт свой адкласці,
Каб быць такім, як ёсць?
*Ліпень 2021 г.*

* * *

Вось не ведаў, не гадаў:
Зноў прыгода, зноў вада.
Да ракі хацеў - дык на!
Кліча сонная Дзясна.
Гэй, сястра, дапамажы,
Ты ў далёкі край бяжыш.
Бачыш, я ў ярме-турме?
Забірай з сабой мяне.
Будзем баіць па начах
Пра цяжкі выгнанскі шлях,
Пра раскошу вольных дзён...
Дык за воляй наўздагон!
*Жнівень, 2021 г.*



* * *

Лёс каварны падкінуў кульбіт -
Потырч ціхая прыстань і праца.
Я цяпер Агасфер - Вечны жыд,
Мне да скону па свеце бадзяцца.

Што за грэх, Хрысце любы, скажы,
Учыніў недзе я несвядома?
Да Другога прышэсця крыжы
На шляху ад блуканняў дадому.

У валоссі сівым - каўтуны,
Цела сонцы чужыя спалілі,
І не грэюць яго лахманы,
І няма ў ім ранейшае сілы.

Тры ракі можа як перайду,
Тры прызначаныя рубіконы -
Адшукаю святую ваду,
І вада змые тыя праклёны.
*Жнівень, 2021 г.*

**Арэлі**

Аддаляюся - набліжаюся,
набліжаюся - аддаляюся
неба і зямля, зямля і неба
чаргуюцца - чуецца…
то не нейкі там маятнік Фуко
а мудрыя як гэты свет арэлі
якія прыводзіць у рух
хіба што пульсацыя
блізкага сэрца
*Кастрычнік 2021 г.*

**Карпацкая поўня**

Па-над вадаспадам разгульвала поўня,
Ды так нетаропка, ды так самавіта…
Хадзіла і палкія сыпала промні,
Што пырскі патоку гарэлі нібыта.

І так захацелася раптам дадому,
Да ціхае плыні, да люстраў-азёраў…
Даруйце, сябры, не жадаў я нікому,
Ні купінак гневу, ні злосці, ні гора!
*Лістапад, 2021 г.*

**Дом**

*Ахвярую Алене Прыходзька*

Дом, будуй-не-будуй, аніколі не будзе тваім,
А сваёй назавеш, як пашчасціць, хіба дамавіну.
Курані і харомы, і хаты - усё гэта дым…
І яны недзе ў прысаку памяці згінуць.

Дом знайсці - нібы донара з роднай крывёй,
І яна ад пагібелі, можа, ўратуе імгненна.
Не хваліся ніколі: "Вось гэты дом - мой",
Бо хіба што сябры - найтрывалыя сцены.

Трэба шмат перажыць і згубіць па жыцці,
Ноч пражыць у сумёце зімою,
Каб дайшло - дом ты можаш знайсці
У сябрах, што яшчэ засталіся з табою.
*Лістапад, 2021 г.*

* * *

Абяцанкі-цацанкі, а дурню - гнілушкі,
"Трэба верыць усім" - ціха шэпча сумленне…
То й яго ўжо запхнуў я глыбей пад падушкі,
А давер да людзей стаў хімернаю ценню.

Мне казалі бацькі - не мані анікому,
А калі абяцаў - дык зрабі, хоць забіся…
Так і жыў, давяраючы добраму, злому,
Дараваў і дарую ім з чыстае высі.

Не блукаю хмызамі, бо бачу дарогу,
Па якой пілігрымам удалеч прастую
Да канца, да свайго найчысцейшага Бога,
Каб аддаць яму долю сваю несвятую.
*Лістапад 2021 г.*

# Экалагічная вандроўка "У госці да Дзеда-прыродаведа"

2 лютага, у Міжнародны дзень водна-балотных рэсурсаў, філіял "Інтэграваная бібліятэка аграмястэчка Дворышча" запрасіў вучняў 3-4 класаў мясцовай школы на экалагічную вандроўку "У госці да Дзеда-прыродаведа". У сваім выступленні бібліятэкар звярнула увагу дзяцей на тое, што Беларусь нездарма далучылася да Рамсарскай канвенцыі, якая ставіць сабе за мэту захаванне водна-балотных угоддзяў , а у народзе 2 лютага каталікі адзначаюць Стрэчанне. Гэта дзень, у які вада валодае цудадзейнай сілай.







Бібліятэкар прапанавала дзецям паслухаць вершы М. Багдановіча, Я. Коласа, урыўкі з твораў У. Караткевіча, Я. Сіпакова, У. Ягоўдзіка, легенды і паданні, дзе прыгожа і яскрава аўтары расказваюць пра прыгажосць нашых рэк, азёр, крыніц і балот. А таксама звяртаюць увагу на цесную сувязь чалавека з прыродай, бо мы павінны не толькі ганарыцца такім багаццем, але і рабіць усё магчымае, каб зберагчы яго.

*Наш кар.*




# Беларусы ў Гародні

Аўтар, знаўца беларусіх спраў, які піша ў "Кур'еры Віленскім" пад псеўданімам "Рэчазнаўца" у № 6 падае цікавую інфармацыю аб беларускім жыцці ў Гародні.

… Гародня ёсць другім пасля Вільні асяродкам беларускага руху… пэўны час тут існавалі: 1) Беларускі народны камітэт, 2) Беларускі клуб, і 3) Арганізаваная падчас нямецкай акупацыі сетка беларускіх школ у правінцыі з беларускай гімназіяй у Гародні (у выглядзе першых 4 класаў) на чале, але ўсе гэты інстытуцыі былі ліквідаваны.

Захавалася толькі самая старая і найлепей пастаўленая беларускай школа ў Гародні. Яна была заснавана ў канцы 1916 г. дзякуючы стараннім і ахвярнасці яе кіраўніка, с. п. Аляксандра Грыкоўскага і налічвала каля 50 вучняў. Пачынаючы з 1919 г., пасля смерці Грыкоўскага, з-за непрыхільнага стаўлення да яе школьных уладаў, школа мела шмат праблем але сёння, дзякуючы энергіі і ведам свайго новага кіраўніка сп. Фядарука, школа знаходзіцца ў квітнеючым стане - налічвае 7 класаў, у якіх вучыцца каля 300 вучняў абодвага пола і працуюць 8 настаўнікаў. Заняткі ў школе адбываюцца ў дзве змены - раніцай і вечарам, прычым 3 ніжэйшыя класы падзелены на два аддзелы.

Вялікія заслугі ў развіцці школы напачатку мела настаўніца, с. п. Тэкля Станішэўская, якая памерла на сваёй пасадзе ад сухотаў.

Пры школе існуе Беларуская школьная рада.

Акрамя гэтай школы зараз у Гародні яшчэ існуе Беларускае таварыства дабрачыннасці, якое трымае Беларускі прытулак для дзяцей-сіротаў. 6 снежня 1925 г. адбыўся агульны сход гэтага Таварыства з мэтай давыбараў кіраўнічага Камітэта таварыства і Рэвізійнай камісіі. Гэта арганізацыя сёння з'яўляецца самай паважанай беларускай інстытуцыяй у Гародні і адыгрывае кіраўнічую ролю сярод беларусаў.

Грамадскае жыццё беларусаў у Гародні лепшае чым яшчэ дзе-небудзь. У 1925 г. адбылася першае за тры гады беларуская тэатральная пастаноўка. Гралася камедыя ў чатырох актах "Шчаслівы муж" пяра знанага беларускага драматурга сп. Фр. Аляхновіча. Восенню, у канцы кастрычніка меў месца беларускі "канцэрт-баль", на якім выступіў беларускі хор і струнны аркестр. Абедзве імпрэзы былі з прыхільнасцю прыняты грамадствам і мелі як мастацкі гэтак і касавы поспех.

А беларуская прэса ў Гародні замацавацца не змагла. Розныя беларускія выданні, якія там спрабавалі выходзіць, не выключаючы і паланафільскіх, у хуткім часе спынілі сваё існаванне. Самым важкім сярод выданняў было "Беларускае Слова", якое выходзіла з 1920 г. Са згодніцкіх выданняў належыць узгадваць "Сялянскую Гутарку".

У апошнія часы выданне газет абмежавана друкам рэвалюцыйна-пралетарскіх беларускіх аднадзёнак з гучнымі назвамі: "Выстрал" ці "Гудок", але і яны даўно ўжо не выходзілі.

Bialorusini w Grodnie // Preglad Wilenski. 1926. № 4. S. 7.

# Красамоўныя лічбы

У канцы жніўня па ініцыятыве мясцовых асветных літоўскіх, беларускіх і яўрэйскіх арганізацый у Літоўскім клубе адбыўся сход, на якім прадстаўнікі гэтых арганізацый зрабілі даклады пра стан адукацыі на сваіх нацыянальных мовах […]

Мы падаем толькі табліцу з беларускага дакладу, якая мае эфект большы за любыя словы.

Прыведзеныя ў табліцы дадзеныя не вымагаюць ніякіх каментароў.

Землі: В - Віленская, Н - Наваградкая, Г - Гарадзенская.

| Школьны год | 1918-1919 | | | 1920-1921 | | | 1922-1923 | | | 1924-1925 | | | 1925-1926 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | В. | Н. | Г. | В. | Н. | Г. | В. | Н. | Г. | В. | Н. | Г. | В. | Н. | Г. |
| 1.Існуючыя агульнаадукацыйныя школы | 90 | 116 | 140 | 189 | 140 | 185 | 20 | 1 | 1 | 18 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 |
| Гімназіі | 3 | 0 | 0 | 2 | 2 | 0 | 2 | 2 | 0 | 2 | 2 | 0 | 2 | 2 | 0 |
| Настаўніцкія семінарыі | 0 | 0 | 1 | 1 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Настаўніцкія курсы | 2 | 0 | 1 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| 2. Школьным інспектарам і ў гмінныя рады пададзена заяў. Заяў і ўхвалаў аб адкрыцці беларускіх школ ці перарабленні існуючых польскіх школ у беларускія | - | - | - | - | - | - | 80 | 72 | 40 | 102 | 114 | 38 | - | - | - |
| У выніку гэтага адчынена беларускіх школ | - | - | - | - | - | - | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | - | - | - |
| У выніку гэтага перароблена з польскіх у беларускія | - | - | - | - | - | - | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | - | - | - |
| Пададзена дэкларацый на аснове моўнага статута ад 31.07.1924 г. аб адкрыцці беларускіх школ | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | 400 | | |
| У выніку гэтага адчынена беларускіх школ | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | 0 | 0 | 0 |
| У выніку гэтага адчынена двухмоўных (утраквістычных) школ | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | - | Каля 10 | | |
| 3. У таварыстве настаўнікаў зарэгістравана беспрацоўных беларускіх настаўнікаў | - | - | - | - | - | - | - | - | - | 972 | | | | | |
| 4. Дазволу на адкрыццё прыватных беларускіх школ не было выдадзена | | | | | | | | | | | | | | | |

*а.[Людвік Абрамовіч] Wytowne cyfry // Preglad Wilenski. 1926. № 15. S. 4-5.*

# Пад знакам Пагоні

1 лістапада [1927 г.] стараннем Таварыства беларускай школы ў зале віленскай гімназіі адбылося святкаванне гадавіны заснавання першай беларускай гімназіі ў Слуцку. У выніку прымусовай адсутнасці шэрагу выбітных дзеячаў беларускага грамадства, як напрыклад дырэктара Р. Астроўскага (заснавальніка гэтай гімназіі ў Слуцку), А. Луцкевіча, Бр. Тарашкевіча і іншых (яны знаходзіліся ў польскай турме -*Л. Л.*), а таксама з-за адлучэння ці самаадлучэння ад справы прадстаўнікоў беларускіх сіл, якія групуюцца вакол "Беларускай Крыніцы" і "Сялянскай Нівы", не кажучы ўжо пра тых, хто прадстаўляе паланафілаў - святкаванне было не лепшым чынам арганізавана і выглядала бледна. Але падчас святкаванне можна было пачуць і ўбачыць шмат сімпатычных момантаў ці акцэнтаў і осіх ўражвала густоўная дэкарацыя подыюма вялікай срэбнай Пагоняй.

Гледзячы на гэты адвечны сімвал свабоды, цэласнасці і незалежнасці нашага краю, мімаволі забывалася, што агромністую колькасць беларусаў зараз прывучаюць да іншых сімвалаў і ідэалаў. І сапраўды ў Менску беларуская мова і асвета цешацца значна большай, чым у нас, свабодай і распаўсюджаннем (яшчэ не пачаўся тэрор супраць беларускай культуры - *Л. Л.*), але ніхто тым пралетарскім масам, пра якія столькі гаворыцца і пішацца, і развіццё якіх абавязкова адаб'еццa на будучыню беларускага народа, не кажа аб гістарычных традыцыях ВКЛ, аб старажытных рыцарах, якія змагаліся і паміралі пад знакам Пагоні, аб даўніх сенатарах і вяльможах, якія складалі мудрыя Статуты і жылі дзеля магутнасці і росквіту сваёй Бацькаўшчыны.

Добра, што не згаснуў цалкам культ гісторыі і для беларускай моладзі герб Пагоня з'яўляецца родным і

зразумелым.

А калі я чую з эстрады словы беларускага паэта:

"Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Успомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні, -
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць:
Старадаўняй літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!"

- у сэрцы я адразу адчуваю палёгку і веру ў будучыню.

Бо толькі пад знакам Пагоні можа наступіць тое паразуменне і яднанне, якога мы прагнем, яднанне зараз чужых і нават варожых паміж сабой краёвых сіл: польскіх, беларускіх і літоўскіх. Покуль у сэрцах грамадзян нашага краю жыве Пагоня, дагэтуль існуе надзея, што гэты сімвал супольнай гісторыі злучыць нас зноў, але ўжо на новых падставах.

Пра гэта ў глыбіні душы марыць не адзін тутэйшы шляхетнейшы і разумнейшы летувіс, беларус і паляк, але ўсе неяк ён не можа пра гэта смела і прыгожа заявіць. Аднаго стрымлівае боязь перад магчымай перспектывай, другому перашкаджае класавая ідэалогія, трэці стаіць на грунце адмовы ад незалежнасці першага і другога і веры ва ўласныя сілы. […]

*[Рэдакцыйны артыкул] Pod znakiem Pogoni // Preglad Wilenski. 1927. № 18. S. 1-2.*

# Прымусовы канкубінат

Школьны куратарыюм яшчэ ў траўні гэтага года прапанаваў бацькоўскаму камітэту Беларускай гімназіі ў Вільні перарабіць гімназію ў беларускі філіял гімназіі імя Славацкага. Бацькоўскі камітэт адказаў катэгарычнай і аднагалоснай адмовай.

Пасля доўгіх нарадаў бацькоўскага камітэта было вырашаны ісці іншым шляхам. Уладам на зацвярджэнне прапанавалі новага дырэктара ў асобе былога сенатара В. Багдановіча, склалі спіс новых настаўнікаў і зрабілі высілкі для збору сродкаў, найперш праз ахвяраванні.

Такім чынам новы навучальны год беларуская гімназія павінна была сустрэць як прыватная з цалкам новым складам настаўнікаў. Школьныя ўлады аднак не пагадзіліся з гэтым праектам. Вучні вярнуліся ў школу, новага дырэктара не зацвердзілі, і выкладаць працягваў стары персанал настаўнікаў, якія адразу запатрабавалі ад бацькоўскага камітэта грошы, недаплачаныя ім за летні перыяд. Праўдападобна, што магчымая страта будынка з-за фінансавых цяжкасцяў прымусіла частку бацькоў 7 верасня склікаць сход і абраць новы склад бацькоўскага камітэта, які на гэты раз складаўся са згоднікаў, якія пагадзіліся з прапановамі куратарыюма. Таму беларуская гімназія з 15 верасня сталася філіялам польскай гімназіі імя Славацкага.

Аднак члены папярэдняга прэзідыюма бацькоўскага камітэта, правамоцнага да наступных выбараў, прызналі новы сход неправамоцным і адмянілі яго вырак, пра што паведамілі ўладам. З гэтага вынікала, што куратарыюм не меў права прымаць гімназію з рук неправамоцнага бацькоўскага камітэта. Аднак, калі дапусціць, што вырак новага камітэта быў папярэдне ўзгоднены, а можа і інспіраваны ўладамі, дык старому камітэту будзе цяжка абараніць свае правы, бо справа далучэння беларускай гімназіі на правах філіяла ўжо лічыцца вырашанай, а ўсе пратэсты бессэнсоўнымі.

Трэба адзначыць, што лёс беларускай гімназіі ў Вільні падзяляе і беларуская гімназія ў Навагрудку, якая таксама перароблена ў філію мясцовай польскай гімназіі.

Сітуацыя, якая ўтварылася з беларускай сярэдняй адукацыяй, была апісана ў ружовых колерах на старонках "Кур'ера Віленскага" (ад 18.09.1932 г.) Аўтар артыкула, сп. Тэсціс падае шэраг фактаў, якія варта памятаць хоць бы для таго, каб мець магчымасць пераказаць іх праз нейкі час, калі яны перастануць быць … фактамі. Вось яны ў скароце:

1) З 15 верасня ў Вільні функцыянуе "Беларускі філіял дзяржаўнай гімназіі імя Славацкага". 2) Выкладанне вядзецца на беларускай мове. Польская мова выкладаецца ў такіх жа самых аб'ёмах, як і ў іншых няпольскіх гімназіях. 3) Гімназія застаецца ў тым самым памяшканні. 4) Папярэдне дзяржаўная дапамога выражалася ў выдзяленні 7 (у апошні год 5) настаўніцкіх ставак. У гэтым годзе дзяржава ўзяла на сябе ўсе 9 ставак і пакрывае ўсе іншыя выдаткі. 5) "Беларускі філіял дзяржаўнай гімназіі імя Славацкага" мае свайго кіраўніка - беларуса і сваю педагагічную раду. Дырэктар гімназіі імя Славацкага мае права браць удзел у пасяджэннях беларускай педагагічнай рады, а супольныя праблемы абедзве педагагічныя рады вырашаюць разам. 6) Кіраўнік беларускага філіяла атрымлівае грошы ад Міністэрства працы на ўтрыманне бурсы.

Інфармацыю "Кур'ера Віленскага" пацвердзіла кіраўніцтва беларускай філіі, было даведзена, што сур'ёзных змен у складзе педагагічнага персаналу не будзе, і змены не плануюцца, таксама больш не пагражае высяленне гімназіі з свайго памяшкання. Што датычыць бурсы - яна зараз мае 75 месцаў, і дзявочая яе частка будзе павялічана да 18 месцаў.

Калі казаць пра ўмяшальніцтва дырэктара гімназіі імя Славацкага ў справы беларускага філіяла, дык, здаецца, што сітуацыя для беларусаў змянілася на лепшае. Аднак ёсць тут адно "але", якое сп. Тэсціс называе скептычнымі стогнамі. Аўтар звяртае ўвагу на школьны статут, які не прадугледжвае дзяржаўных гімназій з няпольскай мовай выкладання. Але той жа статут не прадугледжвае няпольскіх філіялаў пры польскіх гімназіях. Ён лічыць, што не трэба глядзець на правы ў часы, калі не дужа цырымоняцца з літарай закона. […]

*Al. S. [Талочка Ул.] Przytmusowy konkubinat // Preglad Wilenski. 1932. № 16. S. 4-6.*

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***

# Моладзь 11-й лідскай школы за здаровы лад жыцця!





У зімовы час кожны чалавек думае аб тым, каб зберагчы сваё здароўе. Як жа быць здаровым? Што павінен зрабіць кожны чалавек, каб захаваць самае каштоўнае ў сваім жыцці? Менавіта на гэтыя пытанні адшукалі адказы вучні 9 "Б" класа 11-й лідскай школы і зараз хочуць падзяліцца сваімі парадамі здаровага ладу жыцця з усімі, хто жадае захаваць фізічную моц і бадзёрасць духу.

Па-першае, гэта правільны рэжым дня, што з'яўляецца залогам фізічнага і душэўнага здароўя чалавека.

Па-другое, безумоўна, гэта сістэматычнае наведванне ўрокаў фізічнай культуры і здароўя, спартыўных секцый. Яскравым прыкладам для вучняў нашай установы адукацыі з'яўляецца ўласна ўзровень фізічнай падрыхтоўкі настаўніка. Эдуард Іосіфавіч Покуць не проста здзіўляе і вучняў, і настаўнікаў магчымасцямі выканання нарматываў фізічнай падрыхтоўкі, а штодзень нагадвае сваім прыкладам наколькі чалавек павінен сам клапаціцца аб сваім здароўі. Зараз зіма і самы час, калі школьнікі маюць добрую магчымасць паспрабаваць сябе ў зімніх відах спорту, а менавіта пахадзіць на лыжах. Хлопцы і дзяўчаты карыстаюцца гэтым. Разам з імі на адной лыжні і іх настаўнік. А яшчэ, падчас правядзенне Зімовай алімпіяды-2022 прыемна асэнсоўваць, гледзячы на вучняў, што кожны з іх гэтым самым уносіць пэўны ўклад у падняцце спартыўнага духу нашай алімпійскай каманды.

Па-трэцяе, гэта правільнае гарачае харчаванне. Школьнікам 11-й лідскай школы тут можа пазайздросціць кожны. Штодзень кожны вучань мае магчымасць выбраць комплекс на свой густ. Ды і стравы прыгатаваныя для дзяцей кожны дзень розныя: ад філе і катлет да беларускіх дранікаў і запяканкі, акрамя гэтага разнастайныя вітамінныя салаты ды напоі.

Акрамя гэтых парад вучні вызначылі яшчэ такія, як захаванне асабістай гігіены, адмова ад шкодных звычак і, увогуле, актыўны лад жыцця. Школьнікі ўпэўнены, што менавіта дзякуючы гэтым парадам яны ўвесь час застаюцца актыўнымі, вясёлымі і здаровымі.

***Наталля АНАШКЕВІЧ,***
*класны кіраўнік 9 "Б" класа*
*СШ № 11 Ліды.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sejlawiczy@gmail.com, kajety@list.ru

Газета падпісана да друку 7.02.2022 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://kamunikat.org/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*